# ІСКРА

№ 52 (8475)
СУБОТА
8
ЛІПЕНЯ
2000 г.
Выдаецца
з 1931 г.
Цана 51 рубель

Газета ўзнагароджана
Ганаровай граматай
Вярхоўнага Савета БССР

Грамадска-палітычная газета Чавускага раёна


## Лепшыя працаўнікі на корманарыхтоўцы-2000

**Мурашка Віктар Віктаравіч** – механізатар ААТ "Аграсервіс". На трактары Т-150К з ПІМ-40 перавёз 1300 тон сянажнай масы.

**МУРАШКА Аляксандр Віктаравіч** – механізатар ААТ "Аграсервіс". На трактары Т-150К утрамбаваў 3,5 тысячы тон зялёнай масы.

**ЦЯРЭШЧАНКА Валерый Віктаравіч, БАРЫСЕНКА Віктар Васільевіч** – механізатары калгаса "Антонаўскі". На самаходных касілках КПС-5Г скасілі па 227 гектараў траў.

**ТАЛПО Сяргей Аляксандравіч** – механізатар калгаса "Антонаўскі". На прэс-падборшчыку ПРФ-750 запрасаваў 174 тоны сена, амаль удвая перавыконваючы дзённую норму.

**БОНДАРАЎ Мікалай Данілавіч** – механізатар калгаса "Звязда". На кормаўборачным камбайне КСК-100 нарыхтаваў 3350 тон сянажнай масы. Зараз дапамагае нарыхтоўваць кармы ў калгасе "Асінаўскі".

**ЖУКАЎ Валерый Георгіевіч** – механізатар калгаса "Звязда". На трактары МТЗ-80 з КС-2,1 падкасіў пашу на 180 гектарах, на 150-160 працэнтаў выконваючы норму выпрацоўкі.



Добрымі працоўнымі паказчыкамі вызначыўся сёлета на пасяўной механізатар калгаса "Ленінскі шлях" Мікалай Іванавіч Агеенка: на трактары МТЗ-82 ён засеяў зерневымі і зернебабовымі звыш 400 гектараў, а таксама вазіў арганіку пад яравыя культуры. З любой работай, якую даручалі яму ў гаспадарцы, спраўляўся ў тэрмін, сачыў за тым, каб усё было зроблена згодна з тэхналогіяй.

Зараз Мікалай Іванавіч заняты на нарыхтоўцы кармоў для грамадскага пагалоўя: на трактары з ПІМ-40 ён возіць сянажную масу да месц закладкі. А калі надвор'е не спрыяе выкананню гэтай работы, яго накіроўваюць на збор малака ад асабістых падвор'яў.

М.І.Агеенка працуе ў калгасе 16 гадоў, лічыцца адным з лепшых у механізатарскім калектыве.

**НА ЗДЫМКУ: М.І.Агеенка.**

**Фота В.ШУМАНСКАГА, Б,ЦЁХІНА (камп'ютэрная апрацоўка).**

## Нарыхтоўка кармоў у гаспадарках раёна

**Даныя на 6 ліпеня (у працэнтах)**

| Назва гаспадарак | Нарыхтавана | |
|---|---|---|
| | сенажу | сіласу |
| "Антонаўскі" | 173,6 | 47,6 |
| "Сав. Беларусь" | 119,2 | - |
| "Хацкавічы" | 117,2 | 54,4 |
| "Пяцігодка" | 116,7 | - |
| "Звязда" | 111,2 | - |
| "Іскра" | 103,0 | - |
| "Зара" | 94,2 | - |
| "Раста" | 92,1 | - |
| "Св. Кастрычніка" | 85,6 | - |
| "Праўда" | 85,1 | 25,1 |
| "Чавускі" | 83,9 | - |
| "Юны камунар" | 81,1 | - |
| імя Леніна | 80,2 | - |
| "Перадавік" | 76,7 | - |
| "Перамога" | 75,9 | - |
| імя Дзяржынскага | 72,8 | - |
| "50 год БССР" | 72,4 | - |
| "Ленінскі шлях" | 59,6 | - |
| "Серп і молат" | 50,9 | - |
| "Асінаўскі" | 32,3 | - |
| "Галавенчыцы" | 25,0 | - |
| імя Ільіча | 8,2 | 90,9 |
| "XVIII партз'езд" | - | 57,7 |
| **Па раёну:** | **74,2** | **15,3** |

### Весткі з палёў

**Па стану на 6 ліпеня ў раёне**

- поўнасцю скошаны першы укос траў у калгасах "Пяцігодка", "Святло Кастрычніка", імя Ільіча, "Антонаўскі", "Праўда", "Звязда". Саўгас "Савецкая Беларусь" убраў травы толькі на 41,8 працэнта плошчаў, калгас "XVIII партз'езд" на 51,7 і "Асінаўскі" на 63,1;
- усяго нарыхтавана па раёну сена 19,3 працэнта. Лепшых вынікаў у яго нарыхтоўцы дасягнулі ў "Савецкай Беларусі", "Расце", "Іскры", дзе, адпаведна, нарыхтавалі 57,6, 39,7, 38,5 працэнта.

Менш за ўсіх нарыхтавана сена ў калгасе "Асінаўскі" – 5,6 працэнта, у "Звяздзе" – 6,7 і ў "50 год БССР" 7,5.

Нарыхтавана кармоў на 1 умоўную галаву жывёлы ў калгасе "Хацкавічы" – 16,5 цнт. к.а., у "Савецкай Беларусі" – 10,9 цнт. к.а. Самы нізкі гэты паказчык па раёну ў калгасе "XVIII партз'езд": 2,5 цнт. к.а. і 2,3 цнт. к.а. – у "Асінаўскім".

## У РАЙВЫКАНКОМЕ

**На мінулым тыдні адбылося чарговае пасяджэнне райвыканкома, якое вёў яго старшыня У.І.Пузырэўскі.**

Першым на парадку дня было разгледжана пытанне "Аб задачах па забеспячэнні ўстойлівай работы галін народнай гаспадаркі раёна ў асеннезімовы перыяд 2000-2001 гадоў і выкананні рашэння выканкома ад 23 чэрвеня 1999 года № 13-3". З інфармацыяй выступіў намеснік старшыні райвыканкома па капітальнаму будаўніцтву А.Ф.Лапіцкі, а таксама заслухана справаздача дырэктара райжылкамунгаса В.М.Сямашкі.

Прынята рашэнне для каардынацыі падрыхтоўчых да ацяпляльнага сезона работ стварыць аператыўную групу з ліку намеснікаў старшыні райвыканкома, загадчыкаў аддзелаў і кіраўнікоў шэрагу арганізацый раёна. Аддзелам эканомікі, рынечных адносін і прыватызацыі райвыканкома сумесна з зацікаўленымі аддзеламі і ўпраўленнямі да 15 ліпеня гэтага года неабходна распрацаваць балансы спажывання паліўна-энергетычных рэсурсаў па відах на бягучы год, што павінны быць заснаваны на прагнозных паказчыках выпуску тавараў, выканання работ і паслуг, а таксама ўдзельныя нормы расходу паліва на адзінку прадукцыі з улікам правядзення энергетычных мерапрыемстваў.

Да гэтага ж тэрміну неабходна стварыць на ўсіх прадпрыемствах, у арганізацыях і гаспадарках аператыўныя групы па каардынацыі перадзімовых падрыхтоўчых работ, а да пачатку асенне-зімовага перыяду замяніць электракацельні на воданагравальныя ўстаноўкі на мясцовых відах паліва, максімальна або поўнасцю замяніўшы імі вугаль (спажыванне апошняга ў сувязі з няхваткай бюджэтных сродкаў скараціць удвая); прыняць меры па стварэнню запасаў паліва ў кацельнях, абслугоўваючых жыллёвы фонд, аб'екты сацыяльнага і камунальна-бытавога прызначэння; вызначыць рэальную патрэбу насельніцтва і шэрагу іншых спажыўцоў у паліўных брыкетах і прыняць неабходныя меры па іх своечасоваму завозу райпалівазбытам; за кошт бюджэтных і ўласных сродкаў РВА ЖКГ да 1 кастрычніка назапасіць для кацельняў паліва ў памерах трохмесячнага аб'ёму яго спажывання.

На працягу ліпеня-жніўня прадпрыемствам і арганізацыям усіх форм уласнасці неабходна пагасіць запазычанасць за энерганосьбіты, да 1 верасня прывесці ў рабочы стан аўтаномныя і рэзервныя крыніцы энергіі, забяспечыўшы іх палівам.

Райфінаддзел павінен прафінансаваць бюджэтныя ўстановы і арганізацыі з мэтай набыцця паліва, прадугледзець апераджальнае бюджэтнае асігнаванне райжылкамунгаса ў трэцім квартале на падрыхтоўку аб'ектаў да ацяпляльнага сезона. Камунальнай службе раёна трэба ў тэрміновым парадку заняцца прафілактычным і бягучым рамонтам асноўнага абсталявання, падрыхтоўкай да зімы жылля, аб'ектаў водазабеспячэння і каналізацыі, стварэннем аварыйнага запасу абсталявання і г.д. Былі таксама вызначаны задачы для райпалівазбыту і лясніцтваў.

* * *

По другому пытанню – "Аб ходзе выканання рашэння выканкома ад 24 лістапада 1999 год № 23-3 "Аб стане наяўна-грашовага абароту ў раёне" з інфармацыяй выступіла намеснік старшыні райвыканкома па эканоміцы Л.А.Шундалава. Яна адзначыла, што за студзень-май бягучага года наяўна-грашовы абарот па раёну склаў 2850,6 мільёна рублёў. Асноўная доля ў касавым прыходзе (80,5 працэнта) прыпадае на гандлёвую выручку ад продажу спажывецкіх тавараў. У расходнай частцы найбольшы тэмп росту да леташняга назіраецца па выдачы падмацаванняў прадпрыемствам сувязі на выплату пенсій (604, 2 працэнта), у той жа час выплата заробку і сацыяльных дапамог узрасла толькі ў 3,3 раза.

Вядзецца кантроль за захаваннем законнасці па паступленню даходаў і касавай дысцыпліны. Перагледжаны рэжым работы гандлёвых прадпрыемстваў у вясенне-летні перыяд, арганізаваны выязны гандаль і г.д. Разам з тым не выконваецца належны асартыментны мінімум, у цэлым па райпо нарматыў таварных запасаў не запоўнены, маюць месца выпадкі нерацыянальнай закупкі тавараў. За 5 месяцаў план па тавараабароту выканалі толькі 25 магазінаў з 96. З-за нізкага асартыменту тавараў пакупніцкі попыт, асабліва ў сельскай мясцовасці, не задавальняецца , і грошы ўходзяць за межы раёна, асядаюць у камерсантаў.

Райвыканкомам прынята рашэнне ажыццяўляць пастаянны кантроль за выкананнем прагнозных паказчыкаў па грашоваму абароту, увязваючы яго з асноўнымі паказчыкамі эканамічнага развіцця раёна, прыняць дадатковыя меры па збалансаванасці грашовых даходаў і расходаў насельніцтва. Праўленню райпо неабходна актывізаваць работу па выбарцы ўстаноўленых квот з прадпрыемстваў, ліквідаваць запазычанасць за атрыманую прадукцыю, забяспечыць гандлёвую сетку раёна дастатковым асартыментам тавараў.

* * *

Аб выкананні рашэння райвыканкома ад 23 чэрвеня 1999 года № 13-2 "Аб стане і мерах па ўдасканаленні работы арганізацый, абслугоўваючых сельгасвытворчасць" праінфармаваў начальнік райсельгасхарча А.А.Бойка. Былі заслуханы кіраўнікі шэрагу прадпрыемстваў сістэмы аграпрома. Па ААТ "Аграсервіс", у прыватнасці, адзначана, што хаця тэхабслугоўванне трактараў, корма – і зернеўборачнай тэхнікі тут арганізавана, але з-за адсутнасці фінансаў на прадпрыемстве прастойваюць участкі па рамонту помпаў, паліўнай апаратуры, перамотцы рухавікоў і інш.

Да ўзроўню 1997 года ўзраслі аб'ёмы паслуг, аказваемых мехатрадам, у 2 і больш разоў павялічаны аб'ём тэхабслугоўвання трактараў і сельгастэхнікі, у 3 – рамонт кормаўборачных агрэгатаў. Набыта новая тэхніка.

Умацоўваецца матэрыяльна-тэхнічная база і ААТ "Чавуская сельгасхімія". Пры скарачэнні колькасці ўмоўных трактараў на 5 адзінак аб'ём выкананых работ захаваўся на леташнім ўзроўні.

Была таксама прааналізавана дзейнасць Чавускай аграхімлабараторыі і Чавускага прадпрыемства меліярацыйных сетак.

Райвыканкомам прынята рашэнне работу вышэйпералічаных арганізацый прызнаць недастатковай. Ім неабходна прадоўжыць работу па ўмацаванні матэрыяльна-тэхнічнай базы, павелічэнні аб'ёмных паказчыкаў, павышэнні культуры вытворчасці.

На пасяджэнні райвыканкома быў разгледжаны і шэраг іншых пытанняў.

## ТЫДЗЕНЬ ЧАВУСЫ РАЁНА

### НАРАДА ПЕДАГОГАЎ

На базе СШГ № 1 адбылася нарада з удзелам дырэктараў школ раёна, іх намеснікаў па вучэбна-выхаваўчай рабоце, псіхолагаў і сацыяльных педагогаў. Былі падведзены вынікі 1999-2000 навучальнага года, вызначаны задачы на перспектыву.

З дакладам "Павышэнне якасці адукацыі праз выкарыстанне сучасных педагагічных тэхналогій" выступіў загадчык аддзела адукацыі Р.Р.Мардачоў.

### ВЫЯЎЛЕНЫ НЕДАХОПЫ

Група спецыялістаў райсельгасхарча правяла па гаспадарках раёна ўзаемаправерку гатоўнасці зернеўборачных агрэгатаў і зернетакоў да прадстаячага жніва. Па выяўленых недахопах будзе праведзена дадатковая праверка напярэдадні ўборкі, да вінаватых у марудным рамонце тэхнікі прыняты адпаведныя меры.

### ВУЧОБА ПЕРАД ЖНІВОМ

Для кіраўнікоў, аграномаў і галоўных інжынераў гаспадарак у ААТ "Аграсервіс" праведзены семінар па тэхналогіі настройкі і ўшчыльненню зернеўборачных камбайнаў "Дон". Удзельнікам семінара быў прадэманстраваны кінафільм аб прагрэсіўных метадах работы на гэтых зернеўборачных агрэгатах, а затым спецыялісты "Аграсервіса" правялі практычныя заняткі па азначанай тэме.

### ДЗЕНЬ ПРЫЗЫЎНІКА

Каля 50 юнакоў з раёна будуць прызваны 18-19 ліпеня ў армію: вучэбныя часці, пагранвойскі і войскі МУС. Для іх у Цэнтры культуры і вольнага часу быў праведзены дзень прызыўніка.

Перад будучымі салдатамі выступілі ветэран Вялікай Айчыннай вайны В.Ц.Каякін, намеснік райваенкома І.Г.Даўляшэвіч. затым для іх быў паказан канцэрт мастацкай самадзейнасці, а на завяршэнне ўручаны позвы на адпраўку ў войска.

### НА АДПАЧЫНАК – У БЯЛЫНІЧЫ

Сем пенсіянераў з Чавускага раёна выехалі ўжо на аздараўленне ў пансіянат "Бялынічы", адкрыты сёлета пры Бялыніцкім доме-інтэрнаце для састарэлых. Гэта здраўніца гарантуе высокі ўзровень абслугоўвання і добрае харчаванне (лячэнне там не прадугледжана). Колькасць пуцёвак для адпачынку ў гэтым пансіянаце, што выдаюцца згодна з заяўкай сацыяльнай службы раёна, пакуль неабмежавана.

### ДЛЯ АБІТУРЫЕНТАЎ

Каб дапамагчы сёлетнім выпускнікам школ вызначыцца, куды паступаць вучыцца далей, работнікі цэнтральнай бібліятэкі аформілі для іх тэматычную паліцу "Абітурыент-2000", дзе змешчаны даведнікі для паступаючых, прафесіянальныя дапаможнікі і рэпецітарская літаратура. Не забылі яны і аб рэкламе ўласнай прафесіі: тут аформлена выстаўка "Прафесія важная і цікавая", прысвечаная бібліятэкарскай справе, а таксама была праведзена міні-віктарына аб стварэнні кніг.



3 месца падзеі

# ЖАНОЧЫ ФОРУМ У ЧАВУСАХ

У канцы чэрвеня Чавускі раён наведала даволі прадстаўнічая дэлегацыя з ліку актывістак жаночага руху Магілёўшчыны, каб правесці на яго базе чарговае пленарнае пасяджэнне праўлення абласнога аддзялення Саюза жанчын на тэму "Жаночы рух і дзяржава". Узначальвала дэлегацыю старшыня праўлення А.А.Апет, у яе складзе была як член прэзідыума абласнога аддзялення і Г.Р.Лукашэнка.

Месцам сустрэчы гасцей стала школа мастацтваў. Тут іх сустрэлі хлебам-соллю, азнаёмілі з работай гэтай установы і выстаўкай дэкаратыўна-прыкладной творчасці. Затым у актавай зале прадстаўнікі жансаветаў вобласці прыступілі да абмеркавання азначанай вышэй тэмы. Але напачатку перад імі выступіў старшыня райвыканкома У.І.Пузырэўскі, расказаўшы аб Чавускім раёне, яго лепшых людзях і працоўных здабытках, узаемадзеянні мясцовай улады з раённым аддзяленнем Саюза жанчын.

Адкрыла пасяджэнне А.А.Апет. У сваім выступленні яна адзначыла, што ступень цывілізацыі дзяржавы вызначаецца адносінамі да жанчын. На ўсіх гістарычных этапах ім адводзілася важная роля ў ажыццяўленні сацыяльна-эканамічных праграм, іх рукамі створана значная частка нацыянальнага багацця. Лёсаносным для жанчын стала ўходзячае стагоддзе, калі з'явіліся жаночыя грамадскія арганізацыі, быў прыняты шэраг урадавых дакументаў па абароне іх інтарэсаў і правоў.

Выступаючая расказала аб дзейнасці абласнога аддзялення Беларускага Саюза жанчын, акрэсліла шэраг праблем і напрамкаў, па якіх вядзецца работа. Гэта "круглыя сталы", семінары-практыкумы, выязныя пасяджэнні прэзідыума абласнога аддзялення, мерапрыемствы з нагоды Дня жанчын, Дня сям'і, акцыі "Цёплы дом" і г.д. Паўсямесна працуюць кансультацыйныя пункты, псіхолага-педагагічныя службы, клубы "Сям'я", "Гаспадынька", "Майстрыцы", "Маладая сям'я" і інш.

Але сёння статыстыка сцвярджае, што большая частка сем'яў знаходзіцца за рысай беднасці, кожная дзесятая – няпоўная, расце колькасць разводаў, скарачаецца на фоне высокай смяротнасці нараджальнасць, зніжаецца адказнасць бацькоў за выхаванне дзяцей, распаўсюджваецца сацыяльнае сіроцтва. Усё гэта – шырокае поле дзейнасці для жансаветаў.

Грамадская жаночая арганізацыя павінна рабіць усё магчымае і для сацыяльнага самазацвярджэння жанчыны: дапамагчы атрымаць роўныя з мужчынамі магчымасці, стаць канкурэнтназдольнымі на рынку працы і г.д.

А.А.Апет у ліку галоўных задач, якія неабходна вырашыць жансаветам, назвала і такія, як сумесная з дзяржаўнымі структурамі работа па аказанню адраснай дапамогі маламаёмным сем'ям, развіццё сацыяльнай актыўнасці насельніцтва па павелічэнню працоўнага дахода сям'і, прапаганда здаровых сямейна-шлюбных адносін, развіццё ў жанчын свядомасці ў дасягненні гендэрнай роўнасці, дапамога тым, хто апынуўся ў экстрэмальных сітуацыях, і г.д.

Тэму прадоўжыла старшыня Чавускага раённага аддзялення Саюза жанчын З.В.Лемешава. У раёне існуе 57 пярвічных арганізацый, якія аб'ядноўваюць больш як паўтары тысячы жанчын. Галоўны напрамак у рабоце – садзейнічанне жанчынам у вырашэнні паўсядзённых праблем. Поле дзейнасці – і прапаганда прававых ведаў, здаровага ладу жыцця, дабрачынная дапамога, правядзенне вечароў сямейнага адпачынку, пасяджэнняў клуба маладой сям'і.

У раёне прынята праграма па рэалізацыі асноўных напрамкаў дзяржаўнай сямейнай палітыкі, створаны банк даных мнагадзетных сем'яў, якіх у нас налічваецца без малага 500, не застаюцца без увагі і няпоўныя сем'і, а таксама дзеці-інваліды, адзінокія састарэлыя.

Традыцыйнымі сталі "круглыя сталы", сустрэчы прадстаўнікоў раённай улады з жаночай грамадскасцю, арганізацыя выставак дзіцячай творчасці, конкурсы сачыненняў, дабрачынныя і спартыўныя святы, ініцыіруе многія з якіх раённы жансавет. Ён таксама цесна супрацоўнічае з саветам ветэранаў, мае значную спонсарскую падтрымку.



Перад прысутнымі таксама выступіла старшыня савета жанчын г.Магілёва З.К.Чумакова, якая засяродзіла ўвагу на рабоце з удзельнікамі Вялікай Айчыннай вайны, што прагучала даволі актуальна напярэдадні святкавання чарговай гадавіны вызвалення Беларусі, падкрэсліла, што ў кіраўніка жансавета, каб дзейнасць арганізацыі была эфектыўнай, павінен быць высокі аўтарытэт.

Выступаючая таксама адзначыла пасіўнасць жанчын на палітычнай арэне, хаця яны маглі б унесці значны ўклад у стабілізацыю абстаноўкі, заклікала не ўпусціць шанц на прадстаячых выбарах вылучыць у Палату прадстаўнікоў дастойных кандыдатаў з ліку актывістак жаночага руху.

На пленарным пасяджэнні было прапанавана для абмеркавання і ўнясення прапаноў Палажэнне аб структуры і форме работы Магілёўскага абласнога аддзялення грамадскай арганізацыі "Беларускі саюз жанчын".

Затым прадстаўнікі жаночых грамадскіх арганізацый Магілёўшчыны, усклаўшы кветкі да мемарыялу загінуўшым воінам у гарадскім парку, накіраваліся на Чавускі масласырзавод, каб азнаёміцца з вопытам работы пярвічнай арганізацыі гэтага прадпрыемства.

Як расказала гасцям член жансавета В.С.Шаўчук, калектыў завода пераважна жаночы, у большасці работніц – значны працоўны стаж. Жанчыны тут, згодна з калектыўным дагаворам, карыстаюцца многімі дадатковымі льготамі і гарантыямі: грашовыя выплаты да святаў, юбілейных дат, на патаненне харчавання, набыццё ўвосень агародніны, дадатковы водпуск за шкодныя ўмовы працы, адзін дадатковы выхадны ў месяц (без аплаты) і адзін у тыдзень з аплатай у памеры дзённага заробку, калі ў сям'і 3 і больш дзяцей ва ўзросце да 16 гадоў.

Адміністрацыяй завода пры садзейнічанні жансавета аказваецца дапамога работнікам у апрацоўцы прысядзібных участкаў, будаўніцтве і рамонце жылля, аздараўленні і г.д.

Прадстаўнікі жаночых арганізацый вобласці станоўча ацанілі работу кіраўніцтва завода па стварэнню нармальных умоў для работы і адпачынку калектыву, вырашэнню сацыяльна-бытавых праблем.

Затым госці раёна наведаліся ў мясцовы гісторыка-краязнаўчы музей, дзе ў ходзе азнаямляльнай экскурсіі яго дырэктар П.М.Сырадоеў засяродзіў іх увагу на знакамітых жанчынах Чавускай зямлі. Тут жа для іх была арганізавана выстаўка работ дзяцей з СШГ № 1 і Дома дзіцячай творчасці.

Пры падвядзенні вынікаў пленарнага пасяджэння старшыня Крычаўскага раённага савета жанчын З.М.Скачкова яшчэ раз спынілася на тым, што пакуль мала выкарыстоўваецца іх абласной арганізацыяй магчымасць удзелу ў рабоце беларускага парламента, выказала надзею, што ў ходзе прадстаячых выбараў гэта грамадскае аб'яднанне будзе дастойна прадстаўлена ў Нацыянальным сходзе рэспублікі. Яна таксама спынілася на праблемах сям'і, адзначыла слабую работу з моладдзю перад уступленнем у шлюб, выказала пажаданне, каб у штат аддзелаў ЗАГС былі ўведзены псіхолагі.

Старшыня Краснапольскага раённага савета жанчын, член праўлення абласнога аддзялення Н.І.Харытоненкава выказала задаволенасць гэтай сустрэчай, якая ўзбагаціла каштоўным вопытам, дала магчымасць абмяняцца думкамі. Яна адзначыла, што поспех жаночага руху залежыць ад актыўнасці пярвічак.

Член прэзідыума абласнога аддзялення грамадскай арганізацыі "Беларускі саюз жанчын" Г.Р.Лукашэнка падкрэсліла, што прадназначэнне жанчыны не абмяжоўваецца толькі нараджэннем дзяцей. Яе задача – выхаваць іх добрымі, карыснымі для грамадства людзьмі, быць апорай для мужа. Яна заклікала жанчын ніколі не губляць гэтага высокага звання, быць актыўнымі, аптымістычнымі, спагадлівымі, любячымі, і каб менавіта такімі жанчынамі поўнілася беларуская зямля.

**Н.КАЛЕСНІКАВА.**



**НА ЗДЫМКАХ:**

**уверсе (злева направа): член прэзідыума абласнога аддзялення Беларускага саюза жанчын Г.Р.Лукашэнка, старшыня праўлення гэтай арганізацыі А.А.Апет і старшыня Чавускага раённага аддзялення Саюза жанчын З.В.Лемешава;**

**у цэнтры: кветкі – да мемарыяла загінуўшым воінам; памятны запіс у кнізе наведвальнікаў музея робіць Г.Р.Лукашэнка;**

**унізе: у час сустрэчы на Чавускім масласырзаводзе.**

**Фота В.ШУМАНСКАГА.**

# Не выдаваць жадаемае за сапраўднасць

На тэмы маралі

Праблема фарміравання здаровага ладу жыцця ў сям'і і выхавання добрых дзяцей – вельмі шматгранная. Займаюцца ёй некалькі салідных устаноў ці нават не ўстаноў, а сістэм. Гэта і школы, і праваахоўныя органы, і медыкі, і сацыяльныя службы, і грамадскія арганізацыі як, скажам, БПСМ, прафсаюзы, Савет жанчын і да т. п.

Для каардынацыі дзеянняў у гэтым напрамку духоўнай сферы і створаны раённы каардынацыйны савет. На адным з яго чарговых пасяджэнняў было адзначана, што ў раёне многае робіцца для стабілізацыі абстаноўкі ў цяжкіх сем'ях, для прафілактыкі правапарушэнняў сярод падлеткаў, стварэння дабратворнага сямейнага клімату. Аднак, на жаль, гэтыя намаганні не даюць таго эфекту, якога хацелася б. Колькасць неспрыяльных сем'яў і абяздоленых дзяцей расце.

Вядома, нельга скідваць з рахунку складаныя сацыяльна-эканамічныя ўмовы ў дзяржаве, адмоўны ўплыў масавай культуры, але ці недапрацоўваюць дзесьці і ўсе тыя арганізацыі і органы, аб якіх мы прыгадвалі вышэй? Ці не хаваецца часам за назвамі прыгожых мерапрыемстваў і акцый, за супакойваючымі лічбамі звычайны фармалізм?

На пасяджэнні каардынацыйнай камісіі нават разгарэлася спрэчка наконт гэтага. Толькі ж тым, хто адстойваў суцешныя справаздачы, па некаторых фактах цяжка было пярэчыць.

Вось, скажам, загаварылі аб саветах садзеяння сям'і і школе ў працоўных калектывах. На паперы яны значацца як створаныя. Ох, ужо гэтае слова – "створаныя"! Мала стварыць – трэба яшчэ і дзейнічаць! А калі папрасілі члена каардынацыйнай камісіі, дасведчанага наконт гэтага грамадскага фарміравання, назваць хоць бы адзін такі савет, які мае нейкія факты ў рабоце, то і назваць не было чаго.

Тут, відавочна, трэба паступаць так: калі савет ёсць, няхай і на паперы, паспрабаваць праз кіраўніка калектыву наладзіць яго работу. Тым больш, што Палажэнне аб такім савеце распрацавана. Калі ўсё ж гэта – няжыццяздольная прыдумка, то нечага яе ўключаць у справаздачы.

Або наступны момант: у час абмеркавання на камісіі праблем работы з так званымі цяжкімі падлеткамі прагучала фраза: падлеткі, схільныя да правапарушэнняў, уцягваюцца ў работу гурткоў па інтарэсах і спортсекцыі. Зноў задаецца пытанне: назавіце канкрэтна лічбу, школу, гурток, прозвішча падлетка, як паўплываў на яго паводзіны ўдзел у гуртку? Ніхто з прысутных так і не змог сказаць нічога канкрэтнага на гэты конт. Выходзіць, фраза – не больш чым фармальная адчэпка.

Між тым, калі сапраўды зацікавіць падлетка, знайсці ў ім цягу да якога-небудзь карыснага занятку, то несумненна, гэта дапаможа адцягнуць яго ад дрэнных учынкаў або рызыкоўных кампаній. Але хто будзе вывучаць, хто будзе ўнікаць у псіхалогію канкрэтнага хлопчыка ці дзяўчынкі? Тым больш, што псіхалогія гэта часам настолькі знявечаная, што ў душу падлетка не праб'ешся ніякімі сіламі.

Думаецца, і гэта асабістае меркаванне аўтара даных радкоў, што выхаванне падлеткаў на розных пасяджэннях і камісіях – таксама марная справа. З уласнага вопыту ведаю, што яны звычайна замыкаюцца на такіх "форумах" ў сабе і больш маўчаць. Такая работа "гуртам" прыдатна хіба толькі для таго, каб юрыдычна правільна рашыць пытанне аб пакаранні вінаватага за нейкія супрацьпраўныя ўчынкі.

У школах зараз з'явіліся пасады псіхолагаў і сацыяльных педагогаў. Але вакансіі гэтыя запаўняюцца з вялікай цяжкасцю, бо прасцей выкладаць які-небудзь прадмет, чым шукаць кантакты з юнай душой. Гэта ох як няпроста... Без прызвання лепш не лезці ў такую справу.

Калі ўжо мы закранулі тэму псіхалогіі, то ўспомнім пра такую сучасную "модную" форму сацыяльных адносін, як тэлефон даверу. У свой час і раённая газета не адзін раз друкавала нумары падобных тэлефонаў, называла спецыялістаў, якія будуць адказваць на тым канцы дроту. На пасяджэнні той самай камісіі цікавімся: а ці шмат пазваніла людзей па тых тэлефонах даверу? Аказваецца, амаль ніхто не звоніць. А калі і звоняць, то з хуліганскімі падыходамі.

Што гэта: наша няўменне давесці карысную ідэю да жыхароў раёна ці прыкмета нізкай агульнай культуры грамадства? Напэўна, і тое, і другое. Давялося чытаць чарговую аб'яўку наконт тэлефона даверу – паэтычна-лірычны ўступ і ледзь не дзесятак тэлефонных нумароў без тлумачэння наконт таго, хто ж будзе адказваць. Як высветлілася, за гэтымі нумарамі – і міліцыя, і ўрачы, і педагогі, і псіхолагі. Але ў кожнай з гэтых службаў ёсць свае тэлефоны: калі трэба міліцыя – званіце 02, калі медыкі – 03 або ў рэгістратуру і заказвайце ўрача на дом. І гэтак далей.

Усё ж-такі, па вопыту іншых краін, тэлефон даверу павінен насіць адну функцыю – псіхалагічную дапамогу. Так бы яго і назваць: "Тэлефон псіхалагічнай дапамогі", а не ствараць нейкі ўніверсальны кангламерат.

У данай карэспандэнцыі названы толькі некалькі прыкладаў, калі жадаемае спрабавалі выдаваць за сапраўднасць. На жаль яны не адзінкавыя.

**В.ІВАНЕНКА.**

# Ці ёсць у гандляроў даведкі?

Гандаль прадуктамі харчавання з наступленнем лета выйшаў за тэрыторыю гарадскога рынка і размясціўся ўздоўж тратуара побач з цэнтральным уваходам. Месца гэта бойкае, бо тут размешчаны ларкі "Гарачы хлеб", ад універмага з рознымі таварамі першай неабходнасці. Тут і размясціліся прадаўцы духмяных суніц, салёнага сала. Вёдры з бульбай, яйкі, малако ў пластыкавых бутэльках з-пад газіраваных напіткаў, часнок, расада – усё гэта можна набыць, не ўваходзячы на тэрыторыю рынка. Асабліва людна тут у суботу і нядзелю, калі прыязджаюць жыхары вёсак прадаць лішкі прадуктаў. Тады рады гандляроў "на тратуарным рынку" расцягваюцца амаль да гарадскога аўтобуснага прыпынку. І мала хто з пакупнікоў, набываючы тут прадукты, цікавіцца, ці прайшлі яны кантроль ветэрынарна-санітарнай экспертызы, ці праверана на радыяцыю.

Адна з жанчын мне прапанавала набыць у яе малако, маўляў, свежае і добрай тлустасці. Малако стаяла на зямлі ў пластыкавых бутэльках, якімі, відаць, яна карыстаецца ўжо даўно, бо яны былі з умятымі бакамі і на выгляд вельмі падазронай чысціні.

На маё пытанне, а чаму б яго не прадаваць на рынку, у гандлёвым радзе, жанчына растлумачыла, што гэта не проста зрабіць.

Па-першае, трэба мець даведку ад ветурача, што карова здаровая. Такую даведку дае ветурач калгаса, і гэта не праблема. А вось каб праверыць малако на радыяцыю, трэба адзін літр яго занесці ў цэнтр гігіены і эпідэміялогіі, які знаходзіцца на другім баку горада. Малако там правераць, толькі гэта каштуе 2500 рублёў.

Па-трэцяе, трэба заплаціць за гандлёвае месца на рынку, а яно каштуе 48 рублёў. А яшчэ паспрабуй знайсці месца ў першым гандлёвым радзе, які адведзены для продажу прадуктаў. Тут надзейна і ўзімку, і летам стаяць пастаянныя гандляры сланечнікавымі семкамі, бананамі, апельсінамі і г.д.

Запытала я ў жанчыны і пра тое, чаму малако яна прывезла ў гэтых бутэльках, бо і ў газетах, і па радыё тлумачылі неаднойчы, што выкарыстоўваць іх паўторна ні ў якім разе нельга. Яна адказала, што цяжка несці шкляныя банкі з малаком. Да аўтобуснага прыпынку амаль 2 кіламетры, вось і выбірае тару лягчэй.

Аб правілах гандлю малаком на гарадскім рынку мы даведаліся ў ветурача лабараторыі весанэкспертызы Г.А.Зеляньковай: "У цэнтр гігіены і эпідэміялогіі малако не трэба несці. Яго заўсёды правяралі тут. А для таго, каб прадаць малако ад уласнай каровы на тэрыторыі гарадскога рынку, патрэбна мець дзве даведкі: выдадзеную галоўным ветурачом гаспадаркі аб тым, што ў данай мясцовасці не зарэгістравана інфекцыйных захворванняў жывёлы і карова клінічна здаровая (тэрмін дзеяння такой даведкі тры месяцы); другая – з сельскага Савета, на тэрыторыі якога пражывае гандлярка малаком, аб тым, што сапраўды яна мае ўласную карову. З гэтымі даведкамі і адным літрам малака яна прыходзіць у лабараторыю рынка. Малако правяраем на механічнае забруджванне, вызначаем яго шчыльнасць, праводзім даследаванне на радыяцыйнае забруджванне. У тым выпадку, калі малака для продажу маецца больш за 10 кілаграмаў, прадавец павінен за гэту праверку і даведку заплаціць 455 рублёў. Пры меншай яго колькасці гэтыя паслугі лабараторыі зусім бясплатныя. Але з пачатку гэтага года ніводнай пробы малака на праверку не паступала.

Відаць, людзі сапраўды не цікавяцца якасцю прадуктаў, якія ўжываюць у ежу, набываючы іх на рынку. А між тым ніякай гарантыі, што прадукты якасныя, няма.

**Г.МАРОЗАВА.**



## Тэатральная моладзь збярэцца ў Гродне

Завяршыўся агляд творчай тэатральнай моладзі, які працягваўся амаль пяць месяцаў. Ён праходзіў у дзяржаўных драматычных і лялечных тэатрах, а таксама ў навучальных установах, якія займаюцца падрыхтоўкай маладых талентаў. Мэта агляду – адабраць удзельнікаў для рэспубліканскага фестывалю творчай тэатральнай моладзі, які павінен адбыцца ў Гродне ў другой палавіне кастрычніка. Сярод тых, хто атрымаў "дабро", – калектывы Нацыянальнага акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы, ТЮГа, Віцебскай лялькі і, вядома ж, гаспадары – Гродзенскі абласны драматычны і лялечны тэатры. А ацэньваць майстэрства моладзі будзе журы на чале з рэктарам Беларускай акадэміі мастацтваў Рычардам Смольскім.

**(БЕЛТА).**

## ● Вакол факта

## Па зніжаных цэнах

У цэнтральны ўнівермаг паступіла першая партыя тавараў па зніжаных цэнах для малазабяспечанай катэгорыі грамадзян (адзінокія састарэлыя, інваліды І і ІІ груп, беспрацоўныя, няпоўныя і мнагадзетныя сем'і). Размешчаны гэтыя тавары ў аддзеле гатовага адзення. Пакуль асартымент невялікі, але ён будзе расшырацца. Жадаючыя іх набыць, калі яны адносяцца да льготнай катэгорыі, павінны звярнуцца ў аддзел сацыяльнай абароны насельніцтва, а вясковыя жыхары – у сельскія Саветы.



Коллектив учителей и родителей Путьковской СШ выражает благодарность частному предпринимателю Завадскому Николаю Ивановичу за оказанную помощь в подготовке школы к новому учебному году.

Выражаем сердечную благодарность всем, принявшим участие в похоронах Осипова Александра Александровича.

**Семья Осиповых.**

Выражаем глубокую благодарность администрации Рестянского дома-интерната и всем добрым людям, принявшим участие в похоронах Фоминова Игоря Федоровича.

Родные.

Выражаем сердечную благодарность всем, принявшим участие в похоронах Войтенкова Александра Марковича.

**Родные.**

### Юрыдычны практыкум

## Узносы трэба плаціць

З мэтай належнага забеспячэння дзейнасці Фонда сацыяльнай абароны насельніцтва распрацавана і зацверджана Указам Прэзідэнта РБ ад 5 чэрвеня 2000 года Палажэнне аб уплаце абавязковых страхавых узносаў і іншых плацяжоў у вышэйназваны Фонд, якое ўступіла ў сілу з 1 ліпеня бягучага года. Некалькі пытанняў нАконт гэтага Н.Д.Малашанка – начальніку Чавускага раённага аддзялення Фонда сацыяльнай абароны насельніцтва.

**– Раскажыце, калі ласка, аб парадку ўплаты абавязковых страхавых узносаў?**

– Яны выплачваюцца Фонду з фактычна налічаных сум за сцёкшы месяц адначасова з атрыманнем у банках сродкаў на выплаты работнікам. Пры гэтым канчатковы разлік па плацяжах у Фонд робіцца не пазней дня, устаноўленага для выплаты зарплаты.

Пры запатрабаванні сродкаў на выплаты работнікам плацельшчыкі абавязаны прадставіць у банк плацёжнае даручэнне на пералічэнне ўзносаў. Калі сродкаў на рахунку не хапае, плацяжы па гэтаму артыкулу ажыццяўляюцца ў першачарговым парадку, і датай выканання плацельшчыкам абавязацельства з'яўляецца дзень спісання з яго рахунку сродкаў.

**– Ніна Дзмітрыеўна, а якія памеры пені за ўстаноўленую нядоімку?**

– За кожны дзень пратэрміноўкі яна налічваецца ў памеры ўліковай стаўкі Нацыянальнага банка, якая дзейнічала на дату спагнання ўказанай сумы. За несвоечасовае залічэнне або пералічэнне плацяжоў на рахункі органаў Фонда, калі гэта адбылося па віне банка, ён уплачвае пеню ў памеры двухкратнай уліковай стаўкі Нацыянальнага банка ад няўплачанай сумы за кожны дзень пратэрміноўкі.

Калі на рахунках плацельшчыкаў няма грошай, плацяжы ў Фонд спаганяюцца ў бясспрэчным парадку па распараджэннях органаў Фонда з рахункаў іх дэбітораў.

**– Якую адказнасць нясуць плацельшчыкі перад Фондам за ўстаноўленыя парушэнні?**

– Напрыклад, за парушэнне тэрмінаў рэгістрацыі ў якасці плацельшчыка ў органах Фонда спаганяецца 10 працэнтаў сумы абавязковых страхавых узносаў, якую належыць уплаціць. У выпадку схавання, заніжэння сумы выплат, на якія налічваюцца страхавыя ўзносы, у даход Фонда спаганяецца ўся сакрытая ці заніжаная сума плюс штраф у памеры гэтай сумы, а пры паўторным парушэнні – штраф у двайным памеры.

За непрадстаўленне ў банк (органы казначэйства) плацёжнага даручэння на пералічэнне плацяжоў у Фонд ва ўстаноўленыя тэрміны, спаганяецца штраф у памеры 10 працэнтаў сумы, якую належыць уплаціць за сцёкшы месяц.

**Коллектив ОАО "Сельхозхимия" скорбит по случаю смерти бывшего работника ПЛЕСКАЧЕВА Петра Александровича и выражает глубокое соболезнование семье и родным покойного.**

**Семья Маевских выражает глубокое соболезнование МОРОЗОВЫМ Марии Тимофеевне и Анатолию Демьяновичу по случаю преждевременной смерти БРАТА и ШУРИНА.**

**Коллектив работников финансового отдела Чаусского райисполкома выражают глубокое соболезнование заведующему отделом КОВАЛЕВУ Геннадию Васильевичу по случаю смерти МАТЕРИ.**

**Семьи Алексеенко, Зеленковых, Серяковых, Коленко, Фетисовых, Попович выражают глубокое соболезнование КОВАЛЕВУ Геннадию Васильевичу в связи с постигшей его тяжелой утратой – смертью МАТЕРИ.**

**Коллектив работников налоговой инспекции по Чаусскому району выражает глубокое соболезнование заведующему финансовым отделом Чаусского райисполкома КОВАЛЕВУ Геннадию Васильевичу по случаю смерти МАТЕРИ.**

**Отдел образования Чаусского райисполкома и райком профсоюза выражают глубокое соболезнование заведующему финансовым отделом райисполкома КОВАЛЕВУ Геннадию Васильевичу и КОВАЛЕВОЙ Людмиле Павловне в связи с постигшим их горем – смертью МАТЕРИ и СВЕКРОВИ.**

**Семьи Подгурских и Чесновых выражают глубокое соболезнование ПЛЕСКАЧЕВЫМ Нелли Анатольевне, Алексею Петровичу и Елене Федоровне по случаю смерти МУЖА, ОТЦА и СВЕКРА.**

**Правление и профсоюзная организация колхоза "Свет Октября" выражает глубокое соболезнование МОРОЗОВЫМ Марии Тимофеевне и Анатолию Демьяновичу, ТРЕТЬЯКОВЫМ Николаю Владимировичу и Татьяне Петровне по случаю смерти БРАТА, ШУРИНА, ШВАГРА.**

**Чаусский районный исполнительный комитет и районный Совет депутатов выражают глубокое соболезнование заведующему финансовым отделом, члену районного исполнительного комитета и депутату районного Совета депутатов КОВАЛЕВУ Геннадию Васильевичу в связи с постигшей его тяжелой утратой – смертью МАТЕРИ.**

**Коллектив редакции районной газеты "Искра" выражает глубокое соболезнование корректору КОВАЛЕВОЙ Людмиле Павловне по случаю смерти СВЕКРОВИ.**

**Коллектив работников отделения ОАО "Белагропромбанк" в г.Чаусы выражает глубокое соболезнование заведующему финансовым отделом райисполкома КОВАЛЕВУ Геннадию Васильевичу по случаю смерти МАТЕРИ.**

**Коллектив Чаусского РПО ЖКХ выражает глубокое соболезнование заведующему финансовым отделом райисполкома КОВАЛЕВУ Геннадию Васильевичу по поводу смерти МАТЕРИ.**

**Линчевская А.Н. и семья Скачковой Л.В. выражают глубокое соболезнование КОВАЛЕВЫМ Геннадию Васильевичу и Людмиле Павловне по случаю смерти МАТЕРИ и СВЕКРОВИ.**

**Коллектив работников Рестянской СУБ выражает глубокое соболезнование ст.медсестре ВОЙТЕНКОВОЙ Светлане Александровне по случаю трагической смерти МУЖА.**


**Нам. галоўнага рэдактара Наталля КАЛЕСНІКАВА**

НАШ АДРАС: 213200 г. Чавусы, вул. Пралетарская, 13, 2-і паверх

Газета набрана і звярстана на настольна-выдавецкай сістэме рэдакцыі газеты "Іскра"

Газета падпісана да друку 7 ліпеня у 9.00

Заснавальнікі газеты "Іскра": Чавускі раённы Савет дэпутатаў, Чавускі раённы выканаўчы камітэт, рэдакцыя газеты "Іскра"

Рэгістрацыйнае пасведчанне № 17 выдадзена Дзяржкамдрукам 7 чэрвеня 1996 г.

Газета выходзіць у сераду і суботу, апрач пераносу нумароў, звязаных са святамі

ТЭЛЕФОНЫ:

галоўнага рэдактара – 2-12-63, намесніка галоўнага рэдактара і бухгалтэрыі – 2-12-53, аддзела сельскага жыцця і аддзела пісьмаў, прамысловасці і сферы абслугоўвання -- 2-19-82.

Газета надрукавана афсетным спосабам у Магілёўскай абласной друкарні імя Я.М.Свярдлова, па адрасу: г.Магілёў, вул. Першамайская, 72. Аб'ём 1 др. аркуш. Зак. 52. Тыраж 2886 экз. Індэкс 4011